Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# Рэгіянальная газета

24–30 ВЕРАСНЯ 1999 ГОДА
ВЫХОДЗІЦЬ ПА ПЯТНІЦАХ
ЦАНА 30000 РУБЛЁЎ
№39 (231)

АДНА ЗЯМЛЯ

МАЛАДЗЕЧНА

## Ганчара яшчэ шукаюць

Вестка пра знікненне былога намесніка старшыні гарвыканкома **Віктара Ганчара** ў Маладзечне можа ўспрымацца як наканаванасць. Вясной у росквіце сіл памер былы старшыня мясцовага гарвыканкома **Генадзь Карпенка**. Літаральна напярэдадні 50–годдзя свайго былога калегі па выканкому знік яго былы намеснік.

Занепакоенасць знікненнем В. Ганчара адразу выказаў у Вене на чарговай справаздачнай сесіі АБСЕ пасол ЗША ў Чэхіі **Джон Шэтак**. Ёсць і заява Дзярждэпартамента ЗША, дзе намеснік прэс–сакратара **Джэймс Фоулі** таксама канстатуе сумную статыстыку беларускіх знікненняў.

У роспачы і маладзечанцы. Што тычыцца асабіста Віктара Ганчара, то, нягледзячы на яго патрабавальнасць і нават некаторую жорсткасць, наўрад ці знойдзецца чалавек, які будзе адмаўляць тое добрае, што зрабіў для Маладзечна былы намеснік старшыні гарвыканкома.

На момант падпісання нумара ў друк сталічная міліцыя якраз ладзіла ў Мінску прэс–канферэнцыю па факце знікнення В. Ганчара і А. Красоўскага. Падрабязных звестак пра яе мы, на жаль, на гэты час не мелі

*Аддзел інфармацыі.*

ВІЛЕЙКА

## Перастараліся

У выкананне распараджэння аблвыканкома ад 15 верасня і райвыканкома ад 17 верасня "Аб мерах па папярэджанні тэрарыстычных актаў...", вілейскія міліцыянеры разам з пажарнымі правялі рэйды па падвалах шматпавярховак, па інтэрнатах. Нейкіх выбуховых рэчаў не знойдзена. Праўда, калі што, з апавяшчэннем і эвакуацыяй людзей былі б значныя праблемы.

Пры правядзенні ў жыццё падобных мерапрыемстваў вылучылася мясцовая гімназія. На яе дзвярах з'явіліся шыльдачкі з папярэджаннямі да наведвальнікаў – каб тыя пра'яўлялі дакументы. Калі яго няма, трэба звяртацца да дзяжурнага – і вас правядуць у патрэбным накірунку.

Цяпер бацькі чакаюць сваіх дзяцей на лавачках каля будынка. А калі трэба пагаварыць з настаўнікам пра поспехі дзіцяці ці перадаць падручнік або нешта на словах, – гэтыя пытанні сталі амаль што невырашальныя.

Знерваваны тэхперсанал гімназіі, раззлаваныя бацькі. Знаёмая так і не перадала сыну спартыўную форму, якую ён забыўся дома.

*Марына ТАЧЫНСКАЯ.*

МЯДЗЕЛ

## Нарач і ў Амерыцы Нарач

60 навукоўцаў з Беларусі, Расіі, Украіны, Літвы, Эстоніі, Амерыкі сабраліся на возеры Нарач на канферэнцыю, прысвечаную азёрным экасістэмам. Арганізаваў канферэнцыю Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт, ад якога на Нарачы паўстагоддзя працуе біястанцыя.

*Алесь ВЫСОЦКІ.*

АШМЯНЫ

## Гіруць перамог

19 верасня на цудоўнай мясцовай трасе для мотагонак прайшлі прадстаўнічыя міжнародныя спаборніцтвы. Прыехалі спартсмены з Расіі, Украіны, краінаў Балтыі.

Аднак галоўны прыз нашы землякі нікому не аддалі. У самай прэстыжнай намінацыі на сваі сучасным "жалезным кані" перамог ашмянец, вядомы беларускі мотагоншчык **Аляксандр Гіруць**.

*Сяргей ГАЙКОВІЧ.*

МАЛАДЗЕЧНА

## Маладзечанскія лазні могуць закрыцца

МАЛАДЗЕЧНА. На 5 "мінімалак" аштрафавалі майстра лазневай гаспадаркі ВА ЖКГ "Камунальнік" **Наталлю Гаськову**. У цэнтры гігіены і эпідэміялогіі жанчына тлумачыла, што на набыццё сродкаў для мыцця, інвентара для ўборкі, спецвопраткі не хапае сродкаў.

Аштрафаваны таксама галоўны інжынер фізкультурна–аздараўленчага комплекса **Сяргей Смаленскі**. З–за антысанітарных умоў грамадскія лазні могуць закрыцца. Ці ўсё так дрэнна?

Папарыцца на выхадныя – такое заданне атрымаў карэспандэнт "РГ".

*Аддзел інфармацыі.*



ЭНЕРГАНОСЬБІТЫ

# Вілейская ГЭС будзе самая магутная ў краіне

### Аднак раёну яна мала ў чым дапаможа

*ВІЛЕЙКА. Хутка пачнецца будаўніцтва 2–й чаргі гідраэлектрастанцыі на Вілейскім вадасховішчы. Пакуль выпрацоўваюць ток два генератары па 500 кілават кожны. Будзе чатыры. Тым не менш, ГЭСаўскі ток — кропля ў патрэбах рэгіёна.*

Падчас апошняга візіту на Вілейшчыну Аляксандр Лукашэнка наведаў мясцовую ГЭС. Тады сталічныя чыноўнікі недакладна інфармавалі яго, што гораду ГЭС дае 16% току. Лічба завышаная ўдвая. Па раёне яна яшчэ меншая. За жнівень гідраэлектрастанцыя напрацавала 364 тысячы кілават/гадзін. А выкарыстанне току ў горадзе і раёне склала 9 мільёнаў кВ/г. Спецыялісты перакананыя: "эфектыўнасць" малой энергетыкі сітуацыю не выратуе. Энергію ўсё адно трэба купляць ці будаваць свой "Чарнобыль".

Вілейская ГЭС мусіць стаць першай – па магутнасці – у краіне. Пакуль самая магутная – Асіповіцкая. На ёй ўстаноўленыя аўстрыйскія генератары 1953 года выпуску, якія за ўвесь час ні разу не сапсаваліся. Вілейская ГЭС, як і іншыя, працуе ў энергасістэме. У аўтаномным рэжыме яе хопіць толькі асвятліць бальніцу ці ліхтары ў мікрараёне "Зеніт".

ГЭС, як усякі стратэгічны аб'ект, надзейна ахоўваецца. Без спецпропуску на тэрыторыю станцыі не трапіш. З дакументамі ў выцягнутых руках мы праехалі два міліцэйскія пасты. На тэрыторыі, у будынку аператыўнага кіравання, – ідэальная чысціня. Камп'ютэр вядзе тэхнічны працэс: па хвілінах паказвае дадзеныя частаты, напружання, току.

Там жа ў будынку стэнд, які адлюстроўвае этапы будаўніцтва. Першы сімвалічны калок увагналі ў кастрычніку 1995 года. На архіўным фотаздымку – прадстаўнічая групоўка: вучоныя, чыноўнікі з Мінска, мясцовыя будаўнікі, кіраўніцтва горада і раёна. А ўжо ў снежні, праз 2 гады, прыёмачная камісія аб турбіну разбівала бутэльку шампанскага.

**Заканчэнне на 2–й стар.**



*Начальнік Вілейскіх раённых электрасетак Анатоль Рогач.*



*Так выглядае будынак Вілейскай гідраэлектрастанцыі.*

ФОТА ВІТАЛЯ КРУПЯНЬКОВА.

ПРА БРАТОЎ НАШЫХ МЕНШЫХ

## Зусім не дрэннае сабачае жыццё

*СМАРГОНЬ. Ваенны гарадок пагранічнікаў жыве сваім, крыху таямнічым, крыху больш напружаным, чым цывільны горад, жыццём. Усе яго жыхары, пачынаючы ад начальніка і аж да паварыхі на кухні, тут не проста працуюць, а служаць. Служаць і дарослыя, і дзеці, бо калі мы з маёрам Чупрыянавым накіроўваліся да камандзіра часці Міхаіла Саладухі, той якраз прымаў рапарт ад свайго сына—школьніка, які толькі што вярнуўся з заняткаў. А калі сур'ёзна, то жыццё вайскоўцаў заўжды было падпарадкавана загаду, і нічога дзіўнага, што ў такой атмасферы дзеці з маленства прызвычайваюцца да патрабавальнасці і дысцыпліны.*

**Матэрыял пра будні пагранічнікаў–кінолагаў і зусім не дрэннае сабачае жыццё чытайце на 2–й старонцы.**



*Яфрэйтар Кацярына Быкава са сваімі гадаванцамі.*

ФОТА АЛЫ СТРАШЫНСКАЙ.

МЕЖЫ

# Мытня дае «дабро»

*МАЛАДЗЕЧНА. Рэальнымі справамі ад самага пачатку існавання заявіў пра сябе Маладзечанскі мытны пост Мінскай рэгіянальнай таможні. Ужо ў 1992 годзе калектыў у складзе 8 чалавек пачаў аператыўна выкараняць спробы нелегальнага вывазу тавару ў Расію, краіны Балтыі і Сярэдняй Азіі. Днямі беларускія мытнікі адзначалі сваё прафесійнае свята.*

Ад таго часу колькасць мытнікаў на Маладзечанскім мытным пасту павялічылася да 52 чалавек, якія сочаць, каб спробы абысці закон скончыліся нічым. Адказаць на некаторыя пытанні я папрасіла начальніка мытнага паста **Уладзіміра Вараб'ёва.**

– Мы абслугоўваем Маладзечанскі, Вілейскі і Валожынскі раёны. Пост складаецца з 3 аддзелаў. Першы афармляе чыгуначныя грузы, якія праходзяць праз Беларусь транзітам. Другі, таксама чыгуначны, займаецца таварам, які прыбывае на тэрыторыю трох нашых раёнаў і адпраўляецца з яе (работа на чыгунцы не спыняецца ні на хвіліну!). У сярэднім за суткі мы аглядаем каля 20 тысяч вагонаў. Трэці аддзел правярае аўтамабільныя грузы. Гэты аддзел таксама кантралюе дастаўку гуманітарнай дапамогі і рэгіструе асабісты транспарт, які набываюь жыхары трох раёнаў за мяжой.

**– З фільма «Белае сонца пустыні» прыйшоў выраз: «Таможня даёт «добро». Калі даяце «дабро» вы?**

– У кожнага груза ёсць свой асабісты код, калі можна так сказаць,у залежнасці ад яго кошту. Зыходзячы з гэтага і ўстанаўліваецца велічыня мытнай пошліны. І калі «бізнесмен» заведама прысвойвае свайму тавару несапраўдны код, гэта ўжо падман – мы прымаем меры. Калі груз адпавядае дакументам, то непаразуменняў быць не можа.

**– Што чакае таго, хто ўсё ж такі рызыкнуў пайсці на падман ды папаўся?**

– Непрыемнасці. Але гэта мякка сказана. Дарэчы, сёлета мытныя санкцыі павялічаныя ад 50 да 500 мінімальных зарплат. Плюс да ўсяго – канфіскацыя тавару. А калі спрытнюга займаецца знешнеэканамічным гандлем, то можа паплаціцца і ліцэнзіяй.

**– Куды трапляе «канфіскат»?**

– Па–першае, на яго афармляецца матэрыял па адміністрацыйна–мытным правапарушэнні. А той, у сваю чаргу, ідзе ў суд Заводскога раёна горада Мінска (па месцы знаходжання рэгіянальнай мытні). Калі пацвярджаецца законнасць канфіскацыі, то тавар прызнаецца дзяржаўным, а матэрыялы трапляюць у спецыяльную камісію пры гарвыканкоме. Там ён канчаткова ацэньваецца, вырашаецца, хто яго будзе рэалізоўваць. У асноўным, тавар размяркоўваецца па гандлёвых пунктах Маладзечна, а даход з яго ідзе ў гарадскую казну. Шкада толькі, што няма ў нас свайго суда, а то іншым разам «залежваецца» тавар на складах, як было гэта ў свой час з індыйскім ромам, які «пыліўся» там чатыры гады, пакуль ішлі "разборкі".

**– Што цяпер «у модзе» у кантрабандыстаў? Што, часцей за ўсё, спрабуюць перавезці ўпотай?**

– Мабыць, першынство за будаўнічымі матэрыяламі. Натуральна, прадукты харчавання. Быў выпадак, калі грамадзянін перавозіў – быццам бы – цэлы вагон алею. Першы рад скрынак – алей, другі, трэці, а далей – спірт.

**–На перавоз праз мяжу спіртнога і тытуню існуе манаполія дзяржавы. Як часта бываюць спробы "прысвоіць паўнамоцтвы" краіны?**

– Нават не ведаю, чыя гэта заслуга, але ў апошні час такія спробы амаль не сустракаюцца. Зразумелі, дзівакі, што Маладзечанскі пост на мякіне не ашукаеш?

**– Але адкуль вы такія прынцыповыя? Хто можа стаць мытнікам і як гэта зрабіць?**

– Калі ёсць жаданне, то будзе і магчымасць. Да нас можа прыйсці працаваць грамадзянін Рэспублікі Беларусь, якому не больш за 30 год. Абавязкова з вышэйшай адукацыяй, прычым любой. Дарэчы, сёлета ў БДУ адкрыўся факультэт, дзе можна набыць гэту прафесію. Ды, мабыць, самае галоўнае: неабходна быць сумленным, кампетэнтным і... вынослівым (натуральна, у сэнсе – дужым).

**Мытнікі, як відаць, могуць пажартаваць. Калі толькі не жартаваць з імі, прынамсі, звыш меры.**

*Жанна ЛАЗОЎСКАЯ.*

БАЗАРНЫ ДЗЕНЬ

**МАЛАДЗЕЧНА.** Цэны на прадукты харчавання ў сераду на рынку:

| ПРАДУКТЫ | | ЦАНА (ТЫС. РУБ.) 15.09 | 24.09 |
|---|---|---|---|
| Курыныя кумпячкі | 1 кг | 580 | **580** |
| Кілбаса салямі | 1 кг | – | – |
| Сасіскі | 1 кг | 887 | **945** |
| Селядзец салёны | 1 кг | 495 | **540** |
| Рыс | 1 кг | 300 | **350** |
| Цукар | 1 кг | 170 | **200** |
| Грэчка | 1 кг | – | **500** |
| Алей | 1 л | 420 | **420** |
| Яйкі курыныя | 1 дзес. | 177 | **177** |
| Маянэз | 250 г | 80 | **80** |
| Кава "Пеле" | 100 г | 550 | **550** |
| Шпроты, бляшанка | 160 г | 200 | **190** |
| Соус там. «Мінскі» | 0,5 л | 170 | **180** |
| Лімоны | 1кг | 500 | **510** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | | |
| Смятана | 1 л | 250 | **250** |
| Масла | 1 кг | 800 | **900** |
| Тварог | 1 кг | 200 | **170** |
| Малако | 1,5 л | 75 | **90** |
| Бульба | 1 кг | 60 | **50** |
| Яйкі курыныя | 1 дзес. | 190 | **240** |

яблыкі ........ 1 кг ........ 50–100
кавун ........ 1кг ........ 55
капуста ........ 1 кг ........ 45
морква ........ 1 кг ........ 140
памідоры ........ 1 кг ........ 180
перац ........ 1 кг ........ –
цыбуля рэпчатая ........ 1 кг ........ 110
вінаград ........ 1 кг ........ 400

СІТУАЦЫЯ

# Хто дапаможа «проста Марыі»?



Гарадскі пейзаж.



Марыі Дарагуш толькі і застаецца, што чакаць і спадзявацца.

ФОТА ВІТАЛЯ КРУПЯНЬКОВА.

*МАЛАДЗЕЧНА. У 75–гадовай бабулі згарэў барак — дзяржмаёмасць па вуліцы Ламаносава, 7. Марыя Дарагуш выратавалася, суседзі дапамаглі знесці няхітрыя яе пажыткі праз плот. Цяпер бабуля жыве ў іншым бараку, які нагадвае хлеў.*

Яшчэ ўлетку гэты дом па Ламаносава павінны былі знесці, жыхароў перасяліць. Бабулю – у іншы – праз плот – барак, не прыстасаваны для жыцця, у якім яна з–за пажару і апынулася. А дагэтуль старэйшына вуліцы Ламаносава перасяляцца адмаўлялася. Хаця сама яна мала што і вырашае. Суседзі, знаёмыя розуму вучылі. Хай спачатку пераезд (пераход) камунальныя службы падрыхтуюць. Рамонт зробяць на новым месцы. А можа, пашчасціць – і аднапакаёўку старой дадуць з выгодамі.

Марыя Дарагуш жыве адна.

– Жыву па гэтай вуліцы больш за 20 год, – гаворыць бабка Марыя, – маразоў баюся. 5 апошніх год паліва не купляла, печ не паліла. Клалася спаць ва ўсіх сваіх вопратках.

Сёлетнюю зіму бабулі перажыць будзе надзвычай цяжка. Калі добрыя людзі нейкія харчы ёй прынясуць, то ў сваю кватэру, зразумела, не запросяць. Сама Дарагуш толькі плача.

Суседзі ўпэўненыя, што старой павінны даць аднапакаёўку з выгодамі. Найбольш, напэўна, рэальнае выйсце: трэба ці зрабіць добры рамонт у новым бараку і дапамагчы старой з палівам ці аформіць дакументы на перасяленне ў дом–інтэрнат.

*Віталь КРУПЯНЬКОЎ.*

КАРЭСПАНДЭНТ "РГ" АТРЫМАЎ ЗАДАННЕ ПАГАНДЛЯВАЦЬ

# Гаспадары «камкоў» жыццём задаволеныя

## Хаця гонка за сертыфікатамі ім недаспадобы

*МАЛАДЗЕЧНА. У горадзе каля 200 камерцыйных кіёскаў. Розныя канструкцыі не адбіваюцца на іх назвах: "кубікамі" называюць кіёскі, што ля калгаснага рынку, "дзотамі" — закінутыя "бляшанкі" па вуліцы Вальнца.*

Жыццё гандляроў–кіяскёраў менш салодкае, чым у калег–рыначнікаў. Але спакайнейшае. На работу яны выходзяць штодзённа. Створаны імі прафсаюз супраць сумнавядомага дэкрэта №14 рэзка не выступае. Праз кіёскі ідзе, у асноўным, прадукцыя беларускіх вытворцаў. Адпаведна не патрэбныя дакументы аб набыцці валюты. Тым не менш, праблем хапае. Каб зразумець іх, што называецца, знутры, карэспандэнт "РГ" прагандляваў у адным з кіёскаў гадзіны з тры.



ФОТА ВІТАЛЯ КРУПЯНЬКОВА.

## Пралог са смакаваннем

Кіёскі каштуюць у залежнасці ад канструкцыі: ад 500 да 3000 доляраў. Касавы апарат б/у – да 200 "зялёных". Новы – 300–400. За карыстанне зямлёй (за месца, дзе стаіць кіёск) трэба выкласці 4–5 мільёнаў у месяц. Фіксаваны штомесячны падатак – 8 мільёнаў. Карыстанне электраэнергіяй, добраўпарадкаванне тэрыторыі... – пра свае выдаткі гандляры гавораць доўга, з нейкім садамазахісцкім смакаваннем лічбаў. Па іх словах, нават без павелічэння камунальных тарыфаў утрыманне восеннюзімой кіёска ім абыдзецца ў капеечку: дзесьці пад 50 мільёнаў у месяц.

Пра даходы ж гаварыць адкрыта не прынята. Ды і рознае месцазнаходжанне кіёскаў – розныя лічбы. Звычайна за дзень нагандлёўваюць 10–15 мільёнаў "бруднымі". Калі працаваць з "памылкамі", можна тых жа 10 мільёнаў мець прыбытку. Але за парушэнні караюць няшчадна. Ледзьве не легендай стаў выпадак, калі гаспадар кіёска купіў машыну, а праз тыдзень прадаў, каб заплаціць падатак і штрафы.

## Асаблівасці гандлю ў нацыянальных кіёсках

Работа прадаўца–кіяскёра (бяруць, у асноўным, маладых спрытных дзяўчат) чымсьці нагадвае работу хірурга. Усе рухі разлічаныя, без аніякай мітусні. Колькасць найменняў выстаўленых тавараў вагаецца ад 200 да 400. Адразу вельмі складана запомніць, дзе які тавар знаходзіцца.

А пакупнікі патрабуюць:

– Скотч ёсць? А чаму такі маленькі?

– Мне патрэбны апошні нумар часопіса "Ліза".

– Пастаўце паслухаць другую песню зборкі "Гарачая трыццатка".

Жанна, з якой мы гандлявалі, скардзіцца на пакупнікоў. Людзі выкінулі са свайго лексікона словы "дзень добры", "прабачце", "дзякуй". Асаблівым бескультур'ем вылучаюцца школьнікі.

– Самы ходавы тавар – наклейкі, – гаворыць прадавец. – Пакецік каштуе 15–60 тысяч. Такое ўражанне, што ў дзяцей "з'ехаў дах". У нашы дні з такім імпэтам мы нічога не збіралі. Апошнім часам састарэлыя купляюць прэзерватывы. Гэта штосьці павінна значыць. А наогул, за дзень столькі твараў прамільгне, што дадому дапляцешся – і не разумееш, куды ты прыйшла.

Жанна – прадавец са стажам. Таму на сабе выпрабавала ўсе радасці работы зімой. Энерганагляд дазваляе выкарыстоўваць абагравальнікі магутнасцю 1,5 кілавата. Цеплыні ад іх хапае, калі на вуліцы не халадней за –5°. У маразы кіяскёра можна параўнаць з касманаўтам: нацягвае на сябе ўсё магчымае і немагчымае. З туалетам таксама праблема. Звычайна гаспадар кіёска плаціць установе, каля якой стаіць яго гандлёвы пункт. Забыўся своечасова ўнесці грошы – не толькі да туалета, на парог не пусцяць.

Калі прадавец імкнецца як мага больш прадаць тавару (ад гэтага залежыць зарплата), то ў гаспадароў клопату значна больш: набыць гэты тавар, мець на яго дакументы, беспамылкова весці бухгалтэрыю, запрашаць дзяўчат на работу. Апошнія, дарэчы, мяняюцца, можа, часцей за аўтобусных кандуктараў.

Ёсць і цяжкасці пры "атаварванні". У выпадку набыцця тавару без выезду за межы горада (ёсць 4 прадпрыемствы, якія заказваюць і завозяць яго); аформіць сертыфікат на ўсе свае тавары складана па часе і дорага. За адно найменне трэба заплаціць 1,5 долара. А тэрмін годнасці яго 3–6 месяцаў. Гандляры ж баяцца адзін сертыфікат выкарыстоўваць пад некалькі завозаў. Па штрых–кодзе можна лёгка прачытаць парушэнне. Тады тавару і кіёска можа не хапіць, каб разлічыцца за падман.

## Эпілог без аптымізму

Гэта толькі некаторыя перашкоды на шляху тавару да свайго спажыўца. З іншага боку, калі кіёскі працуюць, значыць, гэта камусьці выгадна. Адначасова наўрад ці знойдзеш цяпер прадпрымальніка, які планаваў бы расшырэнне сеткі сваіх "крамак".

Чым толькі ўсё скончыцца?

*Віталь КРУПЯНЬКОЎ.*

У ВОЛЬНУЮ ХВІЛІНУ

# Крыжаванка

ад Анатоля Рогача, г. Вілейка



**Па гарызанталях:** 1. Раённы цэнтр былой Вілейскай, а затым Маладзечанскай абласцей. 6. Род пасцілы. 9. Рака ў Амерыцы, на якой знаходзіцца вядомы вадаспад. 10. Лекавыя травы. 11. Невялікая птушка атрада даўгакрылых з імклівым палётам. 12. Прыбор для рэгулявання сілы току і яго напружання. 13. Французскі гісторык, аўтар шматлікіх прац, у тым ліку, і рускай гісторыі. 16. Ранейшая назва сталіцы Харватыі Заграба. 19. Вядучае становішча. 23. Род папугаяў. 24. Пастраенне ў калоне па росце. 25. Мінерал класа карбанатаў, сыравіна для атрымання соды. 26. Беларускі і літоўскі географ–краязнаўца, ураджэнец вёскі Кабыльнік (цяпер в. Нарач), аўтар кнігі "Па Віліі". 28. У старажытных грэкаў і рымлян: пагардлівая назва чужаземца. 30. Вёска рэгіёна, імем якой названая вуліца ў Мінску. 33. Халодная зброя з шырокім вострым клінком. 35. Дзікі горны баран. 38. Рэшта. 39. Званне, якое прысвойваецца каму–небудзь у гонар прызнання яго заслуг. 40. Пісьмовае прывітанне ў гонар якой–небудзь падзеі. 41. Старажытнагрэчаскі паэт–драматург, малодшы з трох вялікіх афінскіх трагікаў. 42. Кінакамедыя рэжысёра–пастаноўшчыка Г. Данеліі, галоўную ролю ў якой выканаў Л. Кураўлёў. 43. Заліў Чырвонага мора.

**Па вертыкалях:** 1. Чалавек, які намагаецца сваімі паводзінамі, знешнасцю стварыць уражанне. 2. Від рэлігіі. 3. Прылада для вымярэння атмасфернага ціску. 4. Спартыўная барацьба. 5. Паўночная прамысловая рыба сям'і камбалавых. 6. Воінскае падраздзяленне. 7. Шумны публічны поспех. 8. Дзяржаўны лад, метад кіравання. 14. Рака ў Бразіліі, прыток Такантынс. 15. Выключэнне функцыі якога–небудзь органа або сістэмы арганізма. 17. Грашовая ўзнагарода. 18. Дзеючы вулкан у Мексіцы, найвышэйшая (5700 м) кропка краіны. 20. Канструктар цяжкіх танкаў, тройчы Герой Сацыялістычнай Працы. 21. Рака ў Грузіі, па даліне вярхоўя якой праходзіць Ваенна–Асецінская дарога. 22. Аднагадовая расліна. 27. Некаторыя харчовыя тавары. 29. Дрэвавая алейная расліна. 31. Струнны шчыпковы музычны інструмент. 32. Агульная назва рэк (Белая і Чорная), прытокаў Сожа ў Магілёўскай вобласці. 33. Беларуская паэтэса. 34. Газіраваны фруктовы безалкагольны напітак. 36. Прамая, якая злучае дзве кропкі крывой. 37. Род водных шматгадовых раслін.

*Адказы на крыжаванку, змешчаную ў №38.*

**Па гарызанталях:** 1. Абмен. 4. Лабан. 6. Курвіметр. 9. Фанат. 11. Арган. 13. Судак. 16. Струг. 19. Тромб. 20. Астат. 21. Зіма. 22. Бром. 23. Дудка. 25. Банка. 27. Амбра. 28. Наказ. 30. Таксі. 33. Пляма. 34. Геліёграф. 35. Крэда. 36. Аліса.

**Па вертыкалях:** 2. Букет. 3. Навар. 4. Лямпа. 5. Абрыс. 7. Афорт. 8. Актэт. 10. Наморднік. 12. Гера. 14. Дыстанцыя. 15. Абзац. 16. Самка. 17. Гарна. 18. Мамба. 23. Дайна. 24. Абак. 26. Абрад. 29. Загар. 31. Асіна. 32. Сігма. 33. Пафас.

ПАДАРОЖЖЫ

# Казіно кантралююць індзейцы

ВІЛЕЙКА. Нядаўна мой знаёмы вярнуўся з заробткаў у ЗША. Як вядома, атрымаць візу ў гэтую багацейшую краіну свету вельмі цяжка. Але ў Мінску ёсць некалькі "напаўпадпольных" фірмаў, якія дапамагаюць атрымаць такую. Робяцца, прыкладам, паперы, што вы з'яўляецеся генеральным дырэктарам камерцыйнай фірмы з заработкам у $1000, што ў вас ёсць жонка і трое дзяцей і кватэра коштам $50000. І – віза ў вас у пашпарце.

У ЗША вас сустракаюць і вязуць на работу. Мой знаёмы трапіў у Каларада. Гэты штат амаль апошні здаўся свабоднай Поўначы ў ходзе Грамадзянскай вайны за адмену рабаўладальніцтва. Таму неграў тут мала, а чалавека з белай скурай заўсёды прымаюць за свайго. У штаце шмат эмігрантаў з Расіі, Беларусі, Украіны, Польшчы. Знаёмы працаваў у паляка: садзіў дрэвы, касіў траву і г. д. Чатыры 10–гадзінныя рабочыя дні, тры дні адпачынку. І ўікэнд – амерыканцы ўмеюць працаваць, але і ўмеюць адпачываць. У гадзіну плацілі па $8, разлік кожны тыдзень.

Знаёмы амаль адразу здаў на вадзіцельскую ліцэнзію. Гэта не так цяжка. Трэба вывучыць 5 білетаў па 26 пытанняў. Ваджэнне такое ж, як у нас, толькі нельга рухацца на нейтралцы, бо Каларада – горны штат. Калі ёсць правы, можна адкрыць рахунак у банку, дзе можна надзейна захоўваць грошы, ці нават купіць зброю. ПМ (кітайскай вытворачасці) каштуе $180, "калашнікаў" (венгерскі) – каля $400, можна купіць і М–16, але яна страляе толькі адзіночнымі стрэламі. Зброю можна вазіць у машыне, але патроны павінны ляжаць асобна ад зброі. Можна набыць нож, выраблены па касмічнай тэхналогіі, з тытанавым лязом. Цана $800!!!

І для тых, хто любіць уцехі. Танная гарэлка каштуе $8. Казіно і публічныя дамы ў Каларада забароненыя. Але яны дазволеныя ў індзейскіх рэзервацыях. Таму ўсе казіно і публічныя дамы кантралююць індзейцы–шаманы.

Шмат яшчэ чаго цікавага расказаў знаёмы, але ўсё запісаць немагчыма.

*Ігар КІЦІКАЎ.*

НЯВЫДУМАНЫЯ ГІСТОРЫІ

# Стрэл будзе трапны

Бачу – на лавачцы ля хаты ў вёсцы Сырмеж сядзіць мой знаёмы. Яго клічуць за ўмелыя рукі, чалавечую спагаду Кулібіным, на самай справе ён – Арцём Пятровіч. Размяняў восьмы дзесятак год. І што, вы думаеце, майструе чалавек? Лук і стрэлы.

– Дзядуля, для каго гэтая старадаўняя зброя?

– Для сябе, для сябе.

– ...?

– Не здзіўляйцеся і нікому пра мой занятак ні слова.

Узяў у рукі я той лук. Цеціва добра нацягнутая. Стрэлы з наканечнікам са стальнога дроту.

– А ты паспрабуй гэтую стралу выпусціць вунь у той круг на дзвярах хлява, – рэкамендуе майстра.

Страла не трапіла ў цэль. Затое ва ўмелых руках Пятровіча яна ўпілася ў сярэдзіну мішэні.

– На якое спаборніцтва вас запрасілі? – цікаўлюся ў старога майстра. – Таямніца?

– Ні на якое, а таямніцу раскрыю толькі для вас. Ноччу, цёпла апрануўшыся, накіруюся на агарод. На ім добра ўрадзіла гародніна, бульба. У кустах парэчак зраблю засаду. Як толькі з'явіцца няпрошаны начны госць, з засады выпушчу стралу. Буду мецiць у мяккае месца (дзядуля паказвае рукой). Злодзей не будзе ведаць, адкуль атрымаў удар. Калі выявіць, дык для самаабароны ў мяне...

– Няўжо маеце нейкую зброю?

– Нельга ж купіць газавы пісталет, паляўнічае ружжо не дазволяць набыць. Пры мне будзе халодная зброя.

– Шаблю, кінжал, фінку нельга мець радавым грамадзянам.

Не назваў дзядуля сваю халодную зброю, але я здагадаўся, што меў на ўвазе дамарошчаны Робін Гуд. Непадалёку стаялі сякера, вілы.

– Летась восенню аж дзве мае стралы ўпіліся ў кумпяк "начному агародніку", пусцілі кроў. І хто, вы думаеце, хацеў паласавацца дарамі майго і суседняга агародаў? Аднавясковец. Стрэліў з лука, як ён "гаспадарыў" на суседнім участку. Думае не пра мяне. Хадзіў потым марудна, казаў, што апанавалі скулы. Пра маё вынаходніцтва прашу нікому ні слова. Можна спадзявацца?

– Няхай усё будзе нашай таямніцай, – адказаў я, назіраючы, як сырмежскі Робін Гуд захапіўся новай канструкцыяй лука.

*Міхась ЧАРНЯЎСКІ.*

СВАЯ СПРАВА

# Палякі ядуць толькі самцоў

Летам гасцявалі ў Польшчы ў сваякоў, якія маюць сваю справу: гадуюць індыкоў для продажу. Згадаю некалькі цікавых фактаў.

Палякі ўжываюць у ежу толькі самцоў. Яны растуць большымі і хутчэй набіраюць таварную вагу. Таму ў краме на цэнніку пішуць: «індык». А індычак вырошчваюць для таго, каб тыя неслі яйкі. У Беларусі на цэнніках пішуць: «індычка». Што гэта? Мы ўжываем у ежу толькі індычак (самак)? Тады навошта разводзяць індыкоў–самцоў?

І яшчэ адзін цікавы факт. Каб вырошчваць яйцаноскіх індычак, індычанят трэба купляць аж у Канадзе. А калі з яек, атрыманых ад канадскіх індычанят, вырастаюць індычкі, дык яны ўжо не могуць несці яйкі. Някепска?

А наогул, за 20 тыдняў індыкі набіраюць да 18 кілаграмаў вагі.

У нас з індычкі гатуюць катлеты (калі перакручваюць мяса на фарш, з яго выцякае сок). Палякі ж гатуюць адбіўныя. З кумпячка выразаюць тоўстыя кавалкі (каб захаваць сок), соляць, перчаць, адбіваюць, макаюць ва ўзбітае яйка, абвальваюць у муцэ і смажаць колькі хвілін.

Але за індыкамі неабавязкова ездзіць у Польшчу. На Камароўцы яны каштуюць 700 тысяч рублёў за кілаграм.

*Ігар КІЦІКАЎ.*




ПРОСТА АНЕКДОТ

Да кампаніі «крутых», што адпачывае на прыродзе, падыходзіць мужычок і пытаецца:

– Хлопцы, гэта не ваш бультэр'ер тут бегаў?!

Тыя пагрозліва:

– Ну наш, што хацеў ці проста так?

Мужык:

– Разумееце, мы тут таксама побач адпачываем, і мой сабачка выпадкова забіў вашага!

Братва:

– Ды ну на...!? А што ў цябе за звер?

– Ды малы такі, пудзялёк чорненькі!

– ????????????????

– А ваш ім падавіўся...

ГАРАСКОП 20 – 26 ВЕРАСНЯ

**АВЕН (21.03–20.04)**
Канец верасня прынясе добрыя навіны і змены ў лепшы бок. На фронце кахання – без зменаў.

**ЦЯЛЕЦ (21.04–21.05)**
У пачуццях – расчараванне. Але варта задумацца, ці не надта вы прыдзірлівыя да партнёра. Больш адпачывайце і бывайце на прыродзе.

**БЛІЗНЯТЫ (22.05–21.06)**
Лепш не рызыкаваць, не прадпрымаць ніякіх крокаў, магчымыя непрадуманыя ўчынкі.

**РАК (22.06–23.07)**
Складаны перыяд. Давядзецца пастаянна трымаць сябе ў руках. Бітва з канкурэнтамі можа скончыцца поўным крахам, таму пашукайце новае поле для бізнесу.

**ЛЕЎ (24.07–23.08)**
Не раз прыйдзецца звяртацца да сяброў па дапамогу. Дазвольце сабе расслабіцца, ідзіце на дыскатэку ці ў госці.

**ДЗЕВА (24.08–23.09)**
Вы будзеце актыўныя і зробіце ўсё, што ні пачняце. На здзіўленне спакойна будуць паводзіць сябе члены сям'і. Ацаніце іхняе цярпенне.

**ШАЛІ (24.09–23.10)**
Адкладзіце запланаваную паездку, яна станецца безвыніковай і небяспечнай. У асабістым жыцці захочацца змяніць абсалютна ўсё.

**СКАРПІЁН (24.10–22.11)**
Перамогі ва ўсіх напрамках! Аднак калі купаецеся ў даббрабыце, не забывайцеся на тых, хто побач ці мае патрэбу ў вашай падтрымцы.

**СТРАЛЕЦ (23.11–21.12)**
Абвастрэнне хранічных хвароб. Калі адолееце іх, то задаволіцеся падзеямі вакол. Пачуеце прызнанне ў каханні.

**КАЗЯРОГ (22.12–20.01)**
Крыху непакою прынясуць дзеці, муж (ці жонка), хатнія жывёлы. Канец верасня стане перыядам падвядзення даволі някепскіх вынікаў.

**ВАДАЛЕЙ (21.01–19.02)**
Прыслухоўвайцеся на гэтым тыдні да лагічных парад тых, хто вакол; на гэтым тыдні не варта даяўраць пачуццям.

**РЫБЫ (20.02–20.03)**
Падарункі блізкіх асаблівай радасці не прынясуць. Вас адольвае прага зменаў, у тым ліку, у кантактах, стасунках і справах. У суботу не заставайцеся ў адзіноце і не верце «вачам сваім» – магчымы падман.

ХАВАЙСЯ Ў БУЛЬБУ

# Файл завісае

***Знаёмы, які займаецца абслугоўваннем і наладкай камп''ютэрнай тэхнікі, неяк расказаў:***

– Натуральна, з маёй работай я пастаянна маю стасункі з карыстальнікамі камп''ютэраў; найчасцей – жанчынамі ад 18 да 45. Часцей за ўсё яны тэлефануюць, і мы вырашаем праблемы ці па тэлефоне (напрыклад, мышкай туды, а кнопачку – такую) або ў «асабліва цяжкіх выпадках» выязджаю да іх. Але часценька навенькія саромеюцца «вось так адразу» тэлефанаваць і, здараецца, прыходзяць да нас у «кантору» з пытаннямі.

І вось нядаўна сяджу ў сваім пакоі, адчыняюцца дзверы (я сяджу спінай да іх і таго, хто ўваходзіць, адразу не бачу) і тоненькім галаском нехта пытаецца:

– А ў мяне файл завісае ў *Word*'е, што рабіць?

Я адказваю:

– Выйдзі і зайдзі зноў.

Дзверы зачыняюцца, секунд праз колькі адчыняюцца і я чую:

– А ў мяне файл завісае ў *Word*'е, што рабіць?..

*Сямён РАБІНОВІЧ.*

